

ЗА ВАШУ І НАШУ СВАБОДУ!

# БЕЛАРУСКІ ВЫБАР

N 2

Ворган беларускіх выбаршчыкаў Украіны

## РАЗАМ ЗА ВОЛЮ І ЛЕПШУЮ ДОЛЮ…

*2 верасьня ў Львове адбылася Віча і марш украінцаў, арганізаваны ЎА "Свабада". Падтрымаць украінскіх сяброў і аднадумцаў прышлі і беларусы, удзельнікі Беларускіх нацыяналістычных арганізацый Украіны, а таксама госьці з Менску.*



*Прамова сябры Руху Беларуская Салідарнасьць*

Шаноўныя сябры !

Маю гонар вітаць сапраўдных патрыётаў Украіны ад ім я беларускіх нацяналістаў, якія не скарыліся дыктатуры й дамагаюцца вольнасьці й сапраўднай незалежнасьці Беларусі.

Нажаль, мы мала атрымліваем дакладнай інфармацыі аб сучасных падзеях на братняй Украіне. Але любы беларускі патрыёт добра разумее значнасьць вынікаў вашага выбару й вашага змаганьня для далейшага разьвіцьця узаемаплённых адносінаў паміж нашымі народамі. У нас вамі адзіная мэта – супрацьстаяць імперыялістычным намаганьням усходняга суседа. А расейскі імперыялізм сёньня непаўнавартасны, бо ламае зубы аб незалежную Украіну, моцную вашай самаахвярнай барацьбой. Змаганьне ідзе і ў нашай краіне.

Мы зычым вам посьпехаў на выбарах, бо з'яўленьне вашага прадстаўніцтва ў Вярхоўнай Радзе было б вялікай падзеяй і для нас, для беларусаў.

Нашым народам наканавана быць разам, у нас блізкія мовы і культуры. Дзякуй Богу, нам не патэбны перакладчыкі, каб зразумець адзін аднаго. Нас аб'ядноўваюць і агульныя геапалітычныя інтарэсы – калісьці была ідэя стварэньня Чарнаморска-Балтыйскай супольнасьці, якая давала магчымасьць нашым дзяржавам адстойваць свае інтарэсы і на Захадзе, і на Усходзе.

Краіна наша зараз перажывае цяжкія часы. Беларусаў саджаюць у турму нават за тое, што яны узьнімаюць свой спрадвечны бел-чырвона-белы сьцяг. Акупанты вынішчаюць усё беларускае, але яны ня здольныя нас перамагчы, бо мы жывем на сваёй зямлі, і пакуль жывуць беларусы –

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ !
ЖЫВЕ ВЕЧНА!
СЛАВА УКРАІНЕ !
ГЕРОЯМ СЛАВА!



***Змаганьня ЎА "Свабоды" за сапраўдную Ўкраіну і дзейнасьць беларускіх нацыяналістаў Украіны знайшлі гарачую падтрымку ў Беларусі***

**Павал Севярынец аб мітыгу ў Львове:**

Пра мітынг у Львове пачуў учора, ад Вячаслава Сіўчыка. Вы – малайцы! Любая беларуская акцыя ва Украіне зараз утрая больш каштоўная

*Паводле Радыё "Свабода" ад 6 верасьня*

## Слухаем і чытаем праўду…

3 верасьня 2007 года ў Цэнтральнае выбарчай камісіі адбылася жараб'ёўка па наданьню эфірнага часу палітычным партыям і блёкам у цэнтральных сродках масавай інфармацыі. У яе выніку:

**Усяўкраінскае аб'яднаньня "Свабода" праводзіць агітацыю 24 верасьня 2007 году на канале УТ-1 з 20.10 да 20.40 і на Першай праграме Украінскага радыё (УР-1) у гэты ж дзень з 21.10 да 21.40**

**"Голос України" надрукуе прадвыбарчую праграму УА "Свабода" 20 верасьня 2007 года (4 паласа), "Урядовий кур'єр" – 22 верасьня 2007 г. (4 паласа).**

*Прес-служба ЎА "Свабода"*

# Прамая мова старшыні ЎА “Свабода” Алега Цягнібока:



***НУ-НС, БЮТ, ПР зрабілі паміж сабой аўкцыён абяцанак і жадаюць узурпаваць уладу.***

*4 верасьня 2007 года, выступаючы ў праграме “Ранковий гість” на радыё ЕРА FM, старшыня Усяўкраінскага аб’яднаньня “Свабода” Алег Цягнібок адзначыў, што сьмяшно чуць аб стабільнасьці і дабрабыце ў краіне ад Партыі рэгіёнаў, якая сама ж і стварыла праблемы і давяла да крызы Украіну. На цьвёрдае перакананьня Алега Цягнібока, усі разумеюць, што абяцанкі Партыі рэгіёнаў ніхто не зьбіраецца выконваць.*

“Аўторкавы сход неіснуючай ВР, якая ня ёсьць паўнаважнай, мы гэта разглядаем як спробу узурпаваньня улады былой камуністычнае наменклятурай. Гэта магчыма успрымаць як спробу путчу і вяртаньня улады. Усі палітычныя гульцы вызналі гэтыя выбары, зарэгістраваўшыся, і сацыялісты, і Партыя рэгіёнаў.

Мяне зьдзіўляе, чаму наш Прэзыдэнт так млява на гэта рэагуе і абмяжоўваецца няакрэсьлінымі заявамі? Чаму НУ-НС толькі не бяруць удзелу у паседжаньнях, але пры гэтым не перашкаджаюць? Ющчанка меўся бы зрабіць у адносінах да путчыстаў адно – яшчэ вясной, у красавіку, мусіў бы прыцягнуць да адказнасьці Азарава, які адмовіўся фінансаваць выбары, правесьці некалькі арэштаў і увесьці надзвычайнае становішча, а тады правесьці выбары 27 траўня. І даўно пра гэта б забыліся. А сёньня мы маем вынікі гэтай нярашальнасьці. Ініціяваньня паседжаньня ВР адразуб мелася б быць спынена. Але прэзыдэнт не скарыстаўся сваім правам.

Дзівосна чуці з вуснаў Партыі Рэгіёнаў аб судзе, справядлівасьці і гонары. Мы такім чынам маем небясьпеку згубіць дзяржаву. Усяго гэтага не было б ужо даўно, калі б Прэзыдэнт не зьмяняў падставу розпуску парляменту ва уласных указах. Прэзыдэн зьмяніў падставу розпуску парляменту і гэтым самым вызнаў, што ягоны указ ад 2 красавіка не ёсьць дзеючым. Ющчанка даў магчымасьць Януковічу не толькі ачуняць ад указу, а і зрабіць удар у адказ.

Мы выступаем за адмену дэпутацкае недатыкальнасьці адносна крымінальных і эканамічных злачынстваў, але палітычная недатыкальнасьць мусіць існаваць.

Досыць сьмешна, што Партыя Рэгіёнаў давела да гэтай крызы, стварыла праблему, а потым кажа аб стабільнасьці і дабрабыт. Казаць аб збольшаньні пэнсіі на 20 грывень – гэта сьмяшно. “Свабода” выступае за тое, каб зьменшыць кошты на тавары першай неабходнасьці – малако, мяса. Я, як украінскі патрыёт, буду змагацца, каб украінец адчуваў сябе гаспадаром на сваёй зямлі.

Пераважная большасьць людзей мешкаюць за мяжой беднасьці, між іншым дзякуючы алігархам з ПР, БЮЦ і НУ. Зараз вы стварылі стан, калі адсутнічае сярэдняя кляса. Толькі фармаваньня сярэдняе клясы здолела б стварыць стабільнасьць. І усі разумеюць, што яны абяцанкі не выканаюць.”

*ЕРА*

## *Зянон Пазьняк*
# Эскаляцыя расейскай палітыкі



Пэрманэнтная небясьпека, якая зыходзіць для Беларусі з боку імпэрскай Масквы абумоўлена найперш пэрманэнтнай няздольнасьцю беларускага грамадства да арганізаванага і, галоўнае, да асэнсаванага супраціўленьня. Беларуская барацьба на працягу доўгага часу забору і акупацыяў выяўлялася як рух нацыянальнага авангарду. Такое становішча – вынік жорсткай антынацыянальнай акупацыйнай палітыкі ў ідэалягічнай сфэры, злучанай з рэпрэсіямі.

Другі чыньнік становішча – зьнішчэньне нацыянальных элітаў. Направа разбуральнага выніку палягае якраз у стварэньні (адраджэньні) нацыянальных вярхоў грамадзтва праз нацыянальную асьвету і ўплыў гэтых элітаў на ўсю нацыю.

Без рабленьня гэтага дзеяньня немагчымая нацыянальна-вызвольная барацьба і нацыянальна-сэнсоўная палітыка. Мы павінны зрабіць высновы найперш з 90-х гадоў, каб захаваць авангард і пашырыць уплыў. Гэта аксіёмы, якія я паўтараю часта, бо разумею, што неабходна іх паўтараць.

**Аб бягучым моманце**

З канца мінулага года Масква пачала іншую тактыку наступу на Беларусь. Адбыўся канфлікт у лягеры хаўрусьнікаў. Саўдзельнікі не падзялілі амбіцыі з Лукашэнкам.

Так званая “пакрокавая тактыка” пуцінскай інтэграцыі Беларусі і Расеі часова адкладзена ў бок. Цяпер Масква ўжывае мэтодыку “пакрокавай прыватызацыі” Беларусі, сутнасьць якой палягае ў рэсурсным шантажы Лукашэнкі, запалохваньні яго і заганяньня ў кут, стварэньня пагрозы ягонай уладзе з мэтай прымусіць расплочвацца за шантаж нацыянальнай маёмасьцю Беларусі, заводамі, фабрыкамі,

прадпрыемствамі, нерухомасьцю і урэшце — зямлёй.

Яшчэ толькі пачынаючы гэты акупацыйны плян, Пуцін і гэбоўскія ідэолягі ўжо сталі казаць і пісаць пра перасяленьне беларускага насельніцтва ў Расею (гэта наступны этап захопу маёмасьці), нават квазіразумны тэрмін прыдумалі – “антропоток”. “Антропоток” – гэта перасяленьне мільёнаў беларусаў у расейскае рабства, на расейскую тэрыторыю для працы ў расейскай прамысловасьці, здабычы і будаўніцтве.

Трэба ўлічыць, што Расея – гэта такая краіна, дзе здольныя брацца за практычнае ўвасабленьне любых шызафрэнічных ідэй, пачынаючы ад камунізму і Гулагу і аж да павароту “речек вспять”. Вынішчэньне цэлых нацыяў справа для іх ня новая, маюць вялікі вопыт і галоўнае – масавую псіхалогію расейскага насельніцтва, гатовага ўспрыняць любое вар’яцтва ўлады супроць народаў.

Да агрэсіўнай палітыкі “пакрокавай прыватызацыі” Беларусі рускім гэбоўскім капіталам трэба аднесьціся вельмі сур’ёзна, улічваючы прамаскоўскую аўтарытарную ўладу і антынародны дыктат, зь якім зьмірылася маса дэзарыентаванага насельніцтва нашай краіны.

Трэба мець на ўвазе таксама, што прамаскоўскі рэжым (што цалкам адпаведна) не мае нацыянальнай стратэгіі будаўніцтва Беларускай дзяржавы, і ніхто з гэтай групы ўлады ня дзейнічае і не жыве нацыянальнымі інтарэсамі, найперш Лукашэнка. Сутнасьць ягоных дзеяньняў, яго пасія, клопаты і хваляваньні – асабістая ўлада. (У мяне складваецца ўражаньне, што мала хто з сучасьнікаў усьведамляе, што гэтая “пасія” паглынула ўсю ягоную істоту і стала паталогіяй ягонай асобы). Масква, аднак, добра зразумела свайго саўдзельніка і пачала гэтым ягоным страхам карыстацца, тым больш, што гэбістам мэтодыка ціску зразумелая і прывычная.

Зьмест паводзінаў Лукашэнкі ўжо добра відаць. Будзе жаліцца, лаяцца на Крэмль і здаваць Маскве мільён за мільёнам, акцыю за акцыяй, завод за заводам, ці на мове гэбістаў – “отстреливаться до последнего патрона”.

Расейскі плян дыпляматычна прапрацаваны на Захадзе. Усё прадстаўлена як эканамічныя дачыненьні па законах рынкавай эканомікі. І там гэта ўспрымаюць.

Праведзена і праводзіцца адпаведная падрыхтоўка і ва ўнутранай палітыцы Беларусі. Рэзка ўзмоцнены перасьлед за патрыятычныя пазыцыі, выказваньні і дзеяньні, пачалася чарговая жорсткая хваля рэпрэсіяў супраць беларускай моладзі, асабліва супраць школьнікаў і студэнтаў. Прынятыя рэпрэсіўныя законы і інструкцыі. Усё гэта адбываецца на фоне антыкрамлёўскай рыторыкі Лукашэнкі (цана гэтай рыторыкі – “нуль”). Якраз дзеля рашучага задушэньня нацыянальна-адраджэнскага руху, думак і памкненьняў зьмянілі нядаўна кіраўніцтва КГБ. (Цяпер ім кіруе расейскі генэрал танкавых войскаў, вядомы сваім паталягічным беларусафобствам).

Аналіз эскалацыі ўнутранай антыбеларускай палітыкі паказвае, што Лукашэнка кардынальна не ўплывае на стратэгічную палітыку Беларусі. Масква і людзі Масквы, якія яго акаляюць, умела карыстаюцца ягоным беларусафобствам дзеля дасягненьня імпэрскіх мэтаў. Лукашэнка выдае дэкрэты, указы і загады, але партытура палітыкі прапісана маскоўцамі, якія абсадзілі рэжымную ўладу ў Беларусі. Апошнія падзеі добра раскрываюць такое становішча (дзе па лёгіцы атрымліваецца, што начальнік Беларусі дзейнічае сам супраць сябе. Чаго не павінна б было быць у рэальнасьці).

**Аб захадах**

Каб запабегчы маскоўскай палітычнай агрэсіі і “прыватызацыі” нашай нацыянальнай маёмасьці, неабходная найперш беларуская салідарнасьць. Мы даўно ўжо працуем у межах гэтай праграмы. Трэба ўлічыць элементарныя рэчы, што для актыўнага і эфэктыўнага супраціўленьня дастаткова 10% актыўнай падтрымкі насельніцтва. Трыццаць адсоткаў – гэта ўжо рэвалюцыя. Ніякі рэжым ня вытрымае. (Прашу толькі ня блытаць “падтрымку” з электаральным галасаваньнем, багну з гарой).

Салідарнасьці трэба дасягнуць на ўсіх узроўнях. У цяперашняй сітуацыі гэта магчыма, але вымагае падтрымкі. Нагадаю, што ў любой сітуацыі нацыянальнае асьветніцтва застаецца супэрпраграмай, плюс праграмы дзеяньняў (Народны мэмарыял у Курапатах і інш.).

У сувязі з эскалацыяй імпэрскай палітыкі з Усходу мы павінны спыніць маўчаньне аб дзеяньнях Захаду (у прыватнасьці Эўразьвязу). Большасьць мерапрыемстваў дзіўнай і абсурднай, з майго гледзішча, заходняй палітыкі супраць рэжыму Лукашэнкі носяць у канцовым выніку антыбеларускі характар. Гэта вынікае з сьвядама няправільнай ацэнкі рэжыму Лукашэнкі як нібыта самаіснай унутранай дыктатуры. Эўрабюракратыя, якая цяпер пры ўладзе ў Эўразьвязе, сьвядома і наглуха зачыняе вочы на сутнасьць канфлікту ў Беларусі, на беларуска-расейскую вайну, на агрэсіўную палітыку рускага імпэрыялізму, якая доўжыцца ўжо дзьвесьце гадоў. Адсюль адсутнасьць выразнай канцэпцыі эўрапалітыкі па Беларусі. Адсюль (ад нежаданьня спрачацца з Расеяй) няўхільныя дылетанцкія дзеяньні, падтрымка прарасейскай квазіапазыцыі (людзей, якія адкрыта кажуць, што рэжым іх корміць, бо Захад дае грошы на змаганьне з рэжымам), пазбаўленьне Беларусі гандлёвых прэфэрэнцыяў, забарона ўезду чыноўнікаў і г.д.

Ёсьць зьявы, пацьверджаныя вопытам і ўсім відавочныя. Ніякая эканамічная блякада ня ськінула і не аслабіла ніякі дыктатарскі рэжым. Для Беларусі стала толькі цяжэй жыць народу і зашморгнула на горле расейскую пятлю. Эканамічная блякада Беларусі Захадам – гэта спрыяньне расейскаму захопу нашай краіны. І тут не абыходзіцца без расейскай разьведкі і расейскай дыпляматыі (каб ізаляваць “хаўрусьнічка” чужымі рукамі).

Той, хто рэальна думаў бы пра дапамогу ў пазбаўленьні ад дыктатуры ў Беларусі, той не перакрываў бы сабе шляхі ўплыву на атачэньне Лукашэнкі, не “умываў бы рукі” ад жмуднай працы кантактаў зь ягонымі чыноўнікамі на сваім полі. Расейцы, дарэчы, (якіх процьма на Захадзе разам з капіталамі) ад палітыкі ўплыву не адмаўляюцца. Мы ж бачым вынікі іхнай палітыкі.

# 8 ВЕРАСЬНЯ – ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЙ ВАЙСКОВАЙ СЛАВЫ




Слаўнай была перамога беларускага войска пад камандай князя Канстанціна Астрожскага над амаль утрая большым маскоўскім войскам на рэчцы Крапіўне пад Воршай 8 верасьня 1514 года.

Удалым манеўрам вывеўшы маскоўцаў пад зьнішчальны агонь артылерыі, К.Астрожскі вымусіў іх ратавацца уцёкамі. Старадаўная песьня так апісвае гэтую падзею:

*Масква стала наракаці,*
*Места Воршу пакідаці;*
*А як з Воршы уцякалі*
*Рэчку невялічку праклінали:*
*“Бадай ты, рэчка, сто лет высыхала,*
*Як наша слава тутака прапала;*
*Бадай ты высыхала да сканчэньня сьвету*
*Што нашай славанькі ужо нету”.*
*Слава Воршы ужо нягорша.*
*Слаўся, пан Астрожскі!*

Пра выдатную перамогу, якой Астрожскі фактычна уратаваў краіну ад чужога панаваньня, даведалася уся Эўропа. Ёй быў прысьвечаны сьпецыяльны лісток навінаў, выпушчаны ў Нюрнбэргу ў 1514 годзе. Аршанская бітва увайшла ў эўрапейскія хрэстаматыі з ваеннай гісторыі як узор удалай тактыкі змаганьня з намнога перасяжнымі сіламі ворага, як прыклад вырашальнага уплыву таленту і майстэрства вайсковага начальніка на вынік баталіі.

## Чаму мы глядзім чужое кіно?

*Адказвае 2 нумар у выбарчам сьпісе ЎА “Свабода” Юры Ільенка, кінарэжысэр, лаўрыят шаўчэнскаўскай прэміі:*



Разам з захопленьням рэйдырамі ўкраінскага кінарынку, не толькі спынілася кінавытворчасьць ў дзяржаве.

Вытворчасьць – гэта толькі частка вялікага кінематографу. У пэўны час рэйдарскае атакай забралі кінарынак. Калі няма магчымасьці павярнуць укладзеныя грошы (а яны павяртаюцца толькі пасьля сустрэчы з глядачом на кінарынку), тады няможна спадзявацца, што вытворчасьць наогул патрэбна. Праблема не ў тым, што ўкраінскія рэжысэры не працуюць, а ў тым, што ў украінскага глядача забралі люстэрка, праз якое ён глядзеў на сябе і сваю культуру

Я быў не нядаўняе сустрэчы з Прэзыдэнтам на студыі Даўжэнка. Падрыхтаваны праэкт указу, дзе будуць подпісы не толькі Ючшанка, але і прышаноўных кінаматаграфістаў. Але гэты ўказ можа быць не зацьверджаны. Я добра ведаю, як працуе Вярхоўная Рада. У зале зробяць столькі прапановаў і будзе ручное кіраваньня, што мы апынёмся ў глухім куце.

*Прес-служба ВО "Свобода"*

## Білорусів у Львові ігнорують

*Білоруська громада Львова неприємно вражена, що фільм їхнього режисера Юрія Хващеватського “Площа”, який було нагороджено “Серцем лева” на Львівському кінофестивалі “Кінолев”, відмовилися показувати у своєму ефірі всі місцеві телекомпанії.*

Картина розказує про події в Мінську після президентських виборів 2006 року, на яких традиційно переміг Аляксандр Лукашенка. Тоді білоруси вийшли на центральну площу столиці й намагалися оскаржити вибори. Мітинги в Мінську порівнювали з українським Майданом 2004 року. Однак, на відміну від України, білоруська влада розігнала мирні акції своєї опозиції.

“Торік цей фільм передали нам, у Львів, у Білоруську православну парафію святого Кирила Туровського, – розповів “Газеті” її парох Сергій Горбік, – і ми спробували його поширити. Але ті, хто залежить від влади в Україні, – телеканали – казали: “Знаєте, це не на часі”. Куди б ми не зверталися, на які фестивалі – ніхто не хотів його показувати”.

Парох каже, що насправді не чекав того резонансу, який викликала “Площа” на кінофестивалі у Львові. Львів’янам дуже сподобала робота Юрія Хващеватського.

“Фільм добре сприйняли, люди співали білоруський гімн, вигукували “Живе Бєларусь”, – розповідає о. Сергій Горбік. – Це прорив правди про те, що відбувається в Білорусі”. За його словами, європейські фонди, які підтримують розвиток демократії, готові профінансувати показ цієї стрічки в Україні, але безуспішно.

Пан о. Горбік каже, що білоруси розчарувалися в українській владі, оскільки та не виконує своїх обіцянок, зокрема тих, що давала на Майдані.

Однак біди білоруської громади у Львові на цьому не закінчуються. Білоруси навіть не мають де молитися і змушені збиратися або в приватних квартирах, або за гроші в Палаці культури ім. Гната Хоткевича. Про власну церкву наразі не йдеться. Парох білоруської громади каже, що в Україні навіть не можна купити книжки білоруською мовою, тоді як у Мінську українські книжки є у вільному продажу. Так само немає жодної програми на радіо чи телебаченні. ***Загалом в Україні проживає понад 275 тисяч білорусів. “Але ніякої підтримки з боку держави ці люди не мають. Ба більше, відбувається реальна політика культурного геноциду. Під час відправи мені люди так і кажуть”, – зазначив о.Сергій Горбік.***

*Ярослав Іваночко*

“Львівська газета” ад 29 жніўня

Наклад 299 асоб. Зам.№ 2376